У 1946 годзе ў Мікалаеве лютавалі бандыты. Рабавалі, забівалі. Афіцэры з казармаў разыходзіліся позна. Адзін ротны, прыпазьніўшыся, узяў свой табэльны ТТ.

І якраз каля парку Пятроўскага яго спынілі трое. «Скідвай боты!» Ротны выняў пісталет і паклаў аднаго. Іншыя ўцяклі. Тут жа далажыў у камэндатуру. Праз пару месяцаў ротнага судзілі. Далі 6 гадоў за забойства. Пасьля асуджаны казаў: «Які я дурань! Лепш бы аддаў ім боты, шынель, голы неяк дабег да дому. Але ж хто ведаў, што законы пісаны для рабаўнікоў, а не для сумленных...».

Яны прарываліся з акружэньня. Камбат і санінструктар. Як выйшлі, ён папрасіў яе стрэліць яму ў руку, каб па выхадзе не арыштавалі. Яна яго кахала, але... была камсамолкай. І стрэліла ў яго...

Цяпер 50 гадоў дакарае сябе.

***

Атрымаў позву на паседжаньне і не хацеў ісьці. Але даўно не хадзіў у Саюз пісьменьнікаў, даўно нікога ня бачыў, падумаў: схаджу. Пабачыцца, пагаварыць з мудрымі. Тым болей, што такія падзеі адбыліся за апошні час у Беларусі і ў сьвеце.

Ажно ня тое б яно было. Зноў, як і 10 і 20 гадоў назад, Б. пачаў расказваць нешта сьмешнае пра Пестрака, яму падхіхікваў Ч. Пасьля Ч. пачаў даволі бесцырымонна ўпэўніваць астатніх, што яму трэба прэмія (бо мінулая прысуджана за кіно, а цяпер – за літаратуру). За некага з ліку патрэбных закідваў слова Ш. Пра сёньняшняе страшнае і балючае – ні слова. Як і 10 і 20 гадоў таму.

Во – школа!

***

У гады вайны ўся партызанка была пад кіраўніцтвам Масквы. Адтуль дасылаліся розныя групы. У тым ліку і чэкісцкія, – пад выглядам разьведвальных. Але што было выведваць у глыбокім

нямецкім тыле? У лясах, балотах ды глухіх вёсках? Я ўсё думаў, што тут нешта ня тое.

Аказалася, сапраўды ня так. Чэкісцкія групы мелі больш пэўнае заданьне: вынішчаць «класава чужды элемент». Неданішчаны ў перадваенныя гады. Што яны і рабілі з апорай на мясцовы актыў. Часам самі, часам рукамі немцаў – як Менскае падпольле. А разьведка – гэта любімая «крыша» ўсіх чэкістаў.

***

Сустрэча з чытачамі ў бібліятэцы. Прадставіла маладая бібліятэкарка, у зале – чалавек 18–20. Стандартныя пытаньні: як вы працуеце, як адносіцеся, творчыя пляны.

Выйшаў на вуліцу і на тралейбусным прыпынку трапіў у людзкі натоўп, у тралейбус было ня ўлезьці. Гэта непадалёк скончыўся канцэрт заежджай рок-групы. Тысячы людзей. Натхненьне. Ажыўленьне. Гэта культура часу. Маскульт, перад якой уся ранейшая – непатрэбшчына. Старая, бедная бабуля…

***

На адным з перадвыбарчых сходаў наважыўся. Калі з залы папыталіся, чаму дэмакратаў не падтрымліваюць гэтак дружна, як камуністаў, сказаў: бо так інструктуюць спэцорганы. Праз сваіх сэксотаў. Думаў: зараз будуць аплядысмэнты, бо хто ж таго ня ведае, хіба ніхто не гаворыць. Але бачу: позіркі ў зале адразу патухлі, твары пазмрачнелі. Ніякой рэакцыі.

Пасьля, як ехалі дамоў, нагадаў пра той эпізод сябрам у аўтобусе, думаў, пачнецца размова. Ды не. Зноў рэакцыя тая ж – раптоўная апатыя. А праз хвіліну – прапанова самага гаваркога: «Давайце сьпяём…».

Вось так!

***

Прыехаў у замежную краіну, дзе не было нікога знаёмага. Аднак нехта ўзяў над ім апеку: гатэль і г. д. З таго часу на доўгія гады – самае сардэчнае сяброўства. Езьдзілі адзін да аднаго, сябравалі сем’ямі.

І толькі нядаўна даведаўся, што той – чалавек бясьпекі і ўсё рабіў па яе заданьні…

